# Голас Радзімы

№ 48 (2190)
29 лістапада 1990 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



Назбіраць грыбоў для жыхара Беларусі—справа лёгкая. Лясы заўжды шчодра адорваюць аматараў «ціхага палявання». Рэцэптаў прыгатавання таксама нямала. Але вось на Бабруйшчыне лічаць, што самымі лепшымі валодае прафесійны грыбавар Ніна Чумакова. Ці не таму яе прадукцыю з задавальненнем купляюць і ў 5 мясцовых магазінах, і ў іншых гарадах Беларусі. Нават у ЗША і ФРГ яна лічыцца далікатэсам.

НА ЗДЫМКУ: грыбавар Ніна ЧУМАКОВА (у цэнтры). Ёй дапамагаюць дачка Галіна, унук Лёнька і суседка Іна АСПІШЧАВА.

Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.

## ВЫДАННІ «ГОЛАСУ РАДЗІМЫ»




Сёлета яшчэ адзначалася гадавіна Перамогі савецкага народа над фашысцкай Германіяй у Вялікай Айчыннай вайне 1941—1945 гадоў. Гэта было якраз 45-годдзе Перамогі, якая запісана ў нашай гісторыі вялікімі літарамі. Кажу «яшчэ», бо не здзіўлюся, калі больш святкаваць Дзень Перамогі мы не будзем. Мне шкада таго пакалення, дзеля якога ў кожным магазіне вісяць ужо пажоўклыя і заседжаныя мухамі плакаты і аб'явы, што напамінаюць усім: прапусціце без чаргі калеку — ветэрана Вялікай Айчыннай, праявіце да яго павагу. Бо плакаты — плакатамі, а жыццё — само па сабе. І ўсё часцей чуюць ветэраны ад маладых, здаровых юнакоў: «А навошта вы нас вызвалялі?» І не толькі чуюць, а нярэдка і бачаць, як унукі тых, хто аддаў сваё жыццё ў імя таго, каб жылі яны, паганяць брацкія магілы воінаў і партызан, руйнуюць помнікі.

Падзеі, што адбываюцца ўнутры краіны і за яе межамі — на міжнароднай арэне, даюць падставу сцвярджаць, што **такога** свята Перамогі ўжо не будзе. Але гэта зусім не азначае, што пра вайну так лёгка забудуць тыя, каму выпаў страшны лёс вынесці яе цяжар на сваіх плячах, хто можа сказаць: «Я ведаю, што такое вайна, не па кніжках».

Мяркую, што перш за ўсё яны з цікавасцю перагорнуць старонкі невялікага зборнічка нарысаў, які толькі што выйшаў у серыі «Бібліятэчка газеты «Голас Радзімы». Аўтар яго — былы партызан, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, а затым журналіст Віктар Плешавеня. Сама назва зборнічка, я б сказаў, сімвалічная — «Подзвіг». Кожны з герояў нарысаў, дзе б ён ні змагаўся з ворагам—на нашай зямлі ці ў Еўропе,— здзейсніў сапраўдны подзвіг. З такіх вось маленькіх подзвігаў салдата і генерала, франтавіка і партызана і нараджалася наша Перамога. І бясстрашны ваенны лётчык Канстанцін Міхаленка, і таленавіты камандзір партызанскай брыгады Дзмітрый Гуляеў, і крыштальна сумленны, высокаінтэлігентны прафесар Яўгеній Клумаў, ролю якога ў Мінскім падполлі цяжка пераацаніць, і яго паплечніца па падполлю, а затым удзельніца французскага Супраціўлення, якой за вялікі ўклад у барацьбу з фашызмам было прысвоена званне лейтэнанта Французскай арміі, Надзея Лісавец,— усіх іх яднае нешта агульнае. Не думаю, каб яны рваліся ў бой з воклічам: «За Сталіна», але Радзіму яны любілі так, што дзеля яе выратавання маглі ахвяраваць сабой.

Аўтар не рамантызуе іх подзвіг. Ён проста расказвае тое, пра што даведаўся ад саміх герояў кніжкі, ад іх сяброў і пабрацімаў па барацьбе, з іншых крыніц, што былі даступныя журналісту, — толькі факты. А гэта выклікае давер і ахвоту прачытаць усё ад першай да апошняй старонкі.

Думаю, што такое жаданне ўзнікне і ў нашых чытачоў.

**В. КРАСЛАЎСКІ.**

# НАЛЕЖАЦЬ НАШАЙ ГІСТОРЫІ

Памылкі аказаліся немаленькімі, а вынікі не проста кепскімі, а трагічнымі. Але ж у 1929 годзе мала хто прадбачыў 1937--мы. Тым больш паказальна, што Ігнатоўскі ля парога крутога злому адчуў трывожныя сімптомы яго. І зрабіў спробу засцерагчыся.

Выступленне на з'ездзе У. Ігнатоўскага, а таксама сакратара ЦК КП(б)Б Я. Гамарніка, які сказаў добрае слова пра работу АН БССР, як важным фактары правільнага вырашэння нацыянальнага пытання ў Беларусі, здавалася, унеслі неабходную яснасць. Аднак у інфармацыі Затонскага (а таксама ў дакладзе камісіі, напісаным пазней у Маскве і перасланым у ЦКК КП(б)Б) усе асноўныя пункты абвінавачванняў Ігнатоўскага са спасылкай на меркаванні Агурскага былі пацверджаны. У Маскве ж на пасяджэнні ЦКК крытыка навуковых прац Ігнатоўскага была Затонскім значна ўзмоцнена, кола «памылак» пашырана. Але галоўным аб'ектам нападак засталася канцэпцыя паўстання 1863 года, роля ў ім К. Каліноўскага. Настойлівасць паказальная [illegible] ёю выразна праступала тэндэнцыя да перагляду гісторыі беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, спроба выставіць Каліноўскага не толькі галоўным завадатарам барацьбы за незалежнасць Польшчы, але і ці не першым беларускім нацыяналістам, заснавальнікам беларускага нацыянал-дэмакратызму. Супярэчнасці аднаго аднаму Агурскі не заўважае.

Цяжка сказаць, быў Агурскі шчыра перакананы ў сваіх ацэнках ці выконваў чыйсьці сацыяльны заказ, але, як бы там ні было, яны ўвайшлі ў даклад камісіі Затонскага і такім чынам атрымалі выгляд палітычных абвінавачванняў. Гэта для Ігнатоўскага было тым больш небяспечна, шо ў дакладзе яго ўпершыню абвінавацяць у намаганнях стварыць у першыя гады Савецкай улады асобную беларускую камуністычную партыю (мелася на ўвазе Беларуская камуністычная арганізацыя).

Гром, аднак, пакуль што не грымнуў над галавой, зноў жа дзякуючы крытычным адносінам да даклада камісіі з боку часткі тагачаснага ЦК КП(б)Б, яе намаганням непрыкметна для цэнтра вывесці Ігнатоўскага з-пад удару, а таксама ўмелай абароне самога Усевалада Макаравіча. Аб гэтым сведчаць і змест, і ход далейшага развіцця падзей. 8 кастрычніка 1929 года Ігнатоўскі ў адказ на запыт камісіі Затонскага піша ліст у ЦКК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б. Гэта не беспрынцыповае пакаянне ў неіснуючых грахах, у імя ўласнага захавання, а сур'ёзны аналіз, пераасэнсаванне гістарычных падзей, сваіх прац і поглядаў. Ён разумеў, што, калі навуковая крытыка замяняецца ідэалагічнымі абвінавачваннямі, паступіць інакш — значыць уступіць палітыканам і ад навукі, і ад палітыкі, заахвоціць іх на новыя наскокі. Часткова ён прызнаў свае навуковыя памылкі, але разам з тым пераканана абараняў галоўнае: абгрунтаванасць, справядлівасць сваёй трактоўкі паўстання 1863 года. Пры гэтым палічыў прынцыпова важным спецыяльна адзначыць, што яго манаграфія аб паўстанні знаходзіцца ў рукапісу, які Агурскі не чытаў, і таму заява яго — «больш чым рызыкоўная», «суцэльная фантазія, якая мае характар паклёпу». Цалкам і пераканаўча адхіліў Ігнатоўскі абвінавачванне ў спробе стварыць нейкую асобную беларускую камуністычную партыю.

У пісьме Ігнатоўскі паведаміў, што разам з калегамі пачаў падрыхтоўку працы па гісторыі Беларусі, у якой паспрабуе даць яе правільнае марксісцкае асвятленне. Але для гэтага яму патрэбна разгрузка ад іншых абавязкаў, аб чым і просіць Бюро ЦК КПБ. Праз тры дні Бюро ЦК, ні з кім не ўзгадняючы (што, дарэчы, сведчыць і аб пэўнай яго самастойнасці, яшчэ не да канца абмежаванай сталінскай камандай), задавальняе просьбу, а 27-га кастрычніка дае згоду на публікацыю яго пісьма. Крыху раней, 15-га кастрычніка, у самы разгар разгляду справы, Прэзідыум АН БССР прызначае У. Ігнатоўскага дырэктарам (першым) толькі што створанага Інстытута гісторыі. (Пасада, на якую без узгаднення з ЦК не вылучалі). Тады ж у ліку першых беларускіх вучоных яго абіраюць акадэмікам АН Украінскай ССР. Як своеасаблівую палітычную рэабілітацыю Ігнатоўскага можна расцэньваць вынік партыйнай чысткі, калі ЦКК ВКП (б) праверыла кіруючыя кадры Беларусі: Усевалад Макаравіч прайшоў яе без якіх-небудзь прынцыповых заўваг.

Бяда, здавалася, канчаткова адступіла ад яго. Выбіраецца дэлегатам XIII з'езда Кампартыі Беларусі (30 мая — 12 чэрвеня 1930 года), двойчы на ім выступае, выбіраецца ў склад ЦК. Праз два тыдні пасля з'езда выходзіць у свет найбольш грунтоўная з яго прац (і без прынцыповых змен у канцэпцыі) — манаграфія «1863 год на Беларусі».

Але спакой гэты — вонкавы. Стрэлы, скіраваныя ў нацдэмаў, кладуцца ўсё гусцей, стралкоў усё болей. Для сталінскага цэнтра не засталося незаўважаным супраціўленне яго лініі ў кіруючых органах Беларусі, адмоўная рэакцыя інтэлігенцыі на кампанію па разгрому нацдэмаўшчыны. Адказам на гэта сталі новыя кадравыя змены і перамяшчэнні, татальнае запалохванне кадраў, абвінавачванне іх у самазаспакоенасці, палітычнай блізарукасці, ліберальнічанні з класава варожым элементам, патуранні нацдэмам. Менавіта такія папрокі ў адрас беларускіх дзеячаў прагучалі з вуснаў Д. Мануільскага і М. Трылісера падчас інспектавання імі ў канцы 1929 года дзейнасці рэспубліканскай партыйнай арганізацыі.

**(Працяг. Пачатак у №№ 44—47).**

### «НАЦДЭМ»

Пад прыкрыццём славесных залпаў па нацдэмах спрытнымі майстрамі з АДПУ ўжо шылася «справа СВБ». І белыя ніткі тых шыўкоў у хуткім часе для многіх і многіх ператварыліся ў натуральныя турэмныя краты. На пачатку 1930 года была арыштавана першая група асоб, якія быццам бы належалі да СВБ. Спякотным ліпенем — яшчэ адна. За кратамі апынулася каля 30 супрацоўнікаў АН БССР. З іх шэсць акадэмікаў: Г. Гарэцкі, А. Дубах, В. Ластоўскі, Я. Лёсік, С. Некрашэвіч, У. Пічэта.

Гняздо нацдэмаў у Акадэміі! Крытыка ў адрас яе прэзідэнта — Ігнатоўскага набывае завершаны выгляд палітычнага абвінавачвання: падмена класавай барацьбы нацыянальнай, прапаганда тэорыі адсутнасці ў Беларусі эксплуататарскіх класаў, адмаўленне пралетарскага характару Кастрычніцкай рэвалюцыі і Савецкай улады, затушоўванне ролі партыі бальшавікоў і ідэалізацыя ролі дробнабуржуазных партый і г.д. Больш таго, абвінавачванні пашыраюцца на яго грамадска-палітычную і дзяржаўную дзейнасць. Яго публічна папракаюць у падтрымцы дзеячаў былой БНР, якія, маўляў, па-двурушніцку прызналі Савецкую ўладу, а на справе вялі падпольную барацьбу супраць яе, стварылі ў сценах Наркамата асветы і Акадэміі заканспіраваную нацдэмаўскую арганізацыю. У падтэксце амаль несхаванае: «А ці не ўваходзіў ён сам у гэту арганізацыю, ці не быў яе кіраўніком?» Аднак з пэўнай выразнасцю такое абвінавачванне не прагучала. Колькі-небудзь праўдападобных доказаў пад яго прыдумаць не ўдалося. Метады ж непрыкрытай фальсіфікацыі яшчэ толькі апрабоўваліся. Старшыня АДПУ Рапапорт вымушаны быў на Пленуме ЦК КП(б)Б (20-25 кастрычніка 1930 года) прызнаць, што ў яго ведамства няма падстаў абвінавачваць Ігнатоўскага і Жылуновіча ў прыналежнасці да СВБ.

Тым не менш па справе Ігнатоўскага пленум прыняў суровую пастанову, у якой былі сканцэнтраваны ўсе найцяжэйшыя абвінавачванні ў яго адрас. Аднак з партыі не выключае, а дае даручэнне ЦКК КП(б) Б правесці партыйнае расследаванне і вызначыць паводзіны Ігнатоўскага ў адносінах да ўдзельнікаў контррэвалюцыйнай арганізацыі СВБ з мэтай вырашэння пытання аб магчымасці яго знаходжання ў партыі.

Для Усевалада Макаравіча пачынаецца цяжкая паласа прадузятых допытаў у ЦКК, падпарадкаваных адной мэце: выявіць яго злачынныя нацдэмаўскія погляды, сувязь з СВБ, арганізацыю фракцыйнай барацьбы. Адначасова вядзецца «справа» Жылуновіча, выклікаюць у АДПУ Янку Купалу. У канцы лістапада 1930 года да Ігнатоўскага даходзіць страшная вестка аб спробе самагубства паэта. Цяжка сказаць, ці ведаў ён аб усіх акалічнасцях учынку Купалы, але што аб многім — бясспрэчна. (Ад Чарвякова, якому адрасаваў свой перадсмяротны ліст паэт, ад самога Купалы, якога ён разам з Жылуновічам яшчэ паспеў наведаць у бальніцы). Не застаўся для яго, відаць, тайнай намер АДПУ «вылучыць» песняра на ролю аднаго з кіраўнікоў СВБ. Гэтак жа, як і матывы ўчынку Купалы, які мужна адхіліў усе абвінавачванні ў свой бок, ні словам дрэнным не агаварыў сяброў. «Лепей смерць фізічная, чымся незаслужаная смерць палітычная» — гэтыя словы з перадсмяротнага ліста паэта стануць хутка і выбарам Ігнатоўскага.

## ЛІХТАРЫК ЖЫЦЦЯ У. ІГНАТОЎСКАГА



### «ЛЕПЕЙ СМЕРЦЬ ФІЗІЧНАЯ»...

26 снежня 1930 года Ігнатоўскага звальняюць з пасады прэзідэнта АН БССР па палітычных матывах. Аднак 8 студзеня 1931 года Бюро ЦК КП(б)Б яшчэ раз вяртаецца да гэтага пытання і прымае рашэнне: «зняцце Ігнатоўскага з пасады прэзідэнта АН БССР аформіць у савецкім парадку ў відзе аслабанення яго ад гэтай пасады згодна яго просьбе». Нечаканы паварот. Чым абумоўлены ён? Не хапала доказаў? Сцерагліся непажаданай рэакцыі з боку камуністаў, інтэлігенцыі? Непакоіліся аб гонары мундзіра? Усяго патроху, але асноўны разлік, угадваецца, быў іншы: пасля бязлітаснага ўціску, суровых абвінавачванняў, звальнення з усіх пасад зноў абудзіць надзею на больш-менш паспяховы зыход справы і на гэтым псіхалагічным зломе падштурхнуць на агавор сябе і іншых.

Не выпадкова, відаць, ужо на наступны дзень Ігнатоўскага зноў выклікаюць у ЦКК КП(б)Б. Пытанні задаваў сакратар ЦК Кампартыі Беларусі Шаранговіч: «Каго вы лічыце правай групай?» Ігнатоўскі: «Я думаю, што гэта Наркамасветаўская група: Ільючонак, Стасевіч, Каранеўскі, Баліцкі, Жылуновіч». Шаранговіч: «А Чарвякоў?» Ігнатоўскі: «Блізкі, але сам у гэтай групе не быў. Ён той, на каго група ставіла стаўку...» Шаранговіч: «А група Ігнатоўскага — Чарвякова?» Ігнатоўскі: «Такой не існавала». Шаранговіч: «Вы належалі да групы Жылуновіча, так?» Ігнатоўскі: «Ніколі...»

Спраўдзіўся, на жаль, разлік. Разлік на адвечнае супрацьпастаўленне бязмежнай моцы духу чалавека і слабасці яго плоці, вернасці ідэі і любві да блізкіх, абавязку перад імі. Ні вінаваціць, ні папракаць тых, хто аступіўся пад уціскам нечалавечых абставін, жорсткай траўлі, мы не маем сёння маральнага права. Але знаць і памятаць, як аўтарытарна-бюракратычны рэжым для свайго ўмацавання і доўгачасовага існавання ламаў чалавека, абавязаны. Ламаў, каб ператварыць яго ў чалавека іншага складу: пакорлівага канфарміста, здатнага да мімікрыі, гатовага казаць процілеглае таму, што думае, і рабіць трэцяе, дзейнічаць па загаду. І трэба ведаць, як чалавек таму супраціўляўся, перамагаючы і сябе, і сістэму.

16 студзеня 1931 года Прэзідыум і Парткалегія ЦКК КП(б)Б па матэрыялах партыйнага расследавання прынялі пастанову па справе Ігнатоўскага. Адметная яна не толькі канцэнтраваным пералікам «злачынстваў» канкрэтнай асобы, але і вызначэннем тых асноўных кірункаў і блокаў абвінавачванняў, якія хутка стануць тыповым узорам для ўсіх іншых аналагічных «спраў».

**Іпарыён ІГНАЦЕНКА, Аляксей КАРОЛЬ.**

## СОЦИОЛОГИЧЕСКИЙ ОПРОС

# ТОСКА ПО ТВЕРДОЙ РУКЕ

«Пусть будет меньше демократии, но больше порядка и дисциплины!»

Кто сегодня поддерживает этот лозунг? Оказывается, многие. Центр изучения социально-политических и идеологических процессов Института социологии при Академии наук СССР только что закончил межрегиональное социологическое исследование «Состояние межнациональных отношений в СССР и пути их оптимизации». Результаты этого социологического исследования еще нигде не публиковались.

— Возможно, это объясняется тем,— считает социолог кандидат философских наук Наталья Прохорова,— что проведенный анализ показал: наиболее распространенным среди занятого городского населения ряда регионов страны является чувство страха, неуверенности в завтрашнем дне. Это настроение с особой силой проявляется среди национальных меньшинств.

Я принимала участие в исследовании,— продолжает Наталья Прохорова,— поэтому могу рассказать о некоторых его результатах. Так среди занятого населения г. Черновцы Украинской ССР наиболее распространены «усталость от затянувшихся разговоров» (57 процентов), «страх перед будущим, неуверенность в завтрашнем дне» (48 процентов). Последнее высказывание более характерно для русских (60 процентов). Мнение же о том, что «необходима жесткая политика, хватит разговоров», более распространено среди молдаван и русских (соответственно 42 процента и 40 процентов). Считающие, что «пусть будет меньше демократии, но больше порядка и дисциплины»,— это в основном молдаване и евреи (по 42 процента). Среди 20 процентов тех, кто разделяет центристскую позицию— «все урегулируется, если будет сильный центр»,— 30 процентов составляют русские и 25 процентов молдаване. Другими словами, такие высказывания чаще всего разделяют представители малочисленных национальных групп. А русские так же, как молдаване и евреи, на Украине являются представителями национальных меньшинств.

И такие настроения характерны не только для Украины, прежде всего ее западных областей, но и для других республик страны. Это подтверждают исследования, проведенные в городах Махачкала (столица Дагестанской АССР, входит в состав РСФСР), Нукус (столица Каракалпакской АССР, входит в состав Узбекской ССР).

Данные опроса в Махачкале подтвердили значительность доли тех, кто разделяет убеждение «пусть будет меньше демократии, но больше порядка» (43 процента). Более половины опрошенных (66 процентов) считают, что «нужна жесткая политика, дисциплина и меньше разговоров». Аналогичная картина наблюдается и в среднеазиатском городе Нукусе. Здесь даже еще в большей степени, чем в Дагестане, распространено мнение, что нужна жесткая политика (74 процента), необходим сильный центр (63 процента).

Эти цифры достаточно показательны в том плане, что многие национальные движения в своих программах выдвигают требование строительства независимого государства. Национальные меньшинства, проживающие в данных республиках, эти требования по-видимому, интерпретируют как создание суверенного государства с приоритетами представителям основной коренной национальности.

Поэтому апелляция к центру среди национальных меньшинств не такое уж редкое явление, и выход из состава СССР не является таким уж желанным, как это представляют многие. Так, к примеру, среди занятого населения Махачкалы преобладает мнение, что союзные органы власти должны «убедить республики в нецелесообразности выхода из СССР» (47 процентов) и что при этом они «должны употребить все меры власти, чтобы не допустить выхода из состава Союза» (29 процентов).

Более чем половине опрошенных в Узбекистане (62 процента) не нравится деятельность, которую ведет ряд общественно-политических движений, направленная на выход из состава СССР. Половина опрошенных Нукуса придерживается того же мнения. Вообще, в республиках бытует убеждение, что каждая из них дает Союзу больше, чем Союз им. Кстати, это довольно распространенное мнение.

Таким образом, несмотря на то, что более половины опрошенных разделяют мнение, будто наибольшую опасность в перестройке представляют консервативные элементы в советском, партийном и хозяйственном аппарате, определенная часть населения испытывает тоску по твердой руке.

Это желание иметь твердую руку во многом действительно обусловлено чувствами социальной незащищенности, неуверенности и страха перед будущим. Играют здесь, конечно, определенную роль инертность, определенный консерватизм общественного сознания, низкая политическая культура.

На какие же общественно-политические силы возлагают люди свои надежды?

Как показало социологическое исследование, на обновленную Компартию и на народные фронты одновременно. Так, в Черновцах (на Украине) мнения поровну разделились: одни высказываются за повышение авторитета КПСС, другие — за его падение и рост авторитета неформальных общественных организаций.

В Дагестане авторитет Коммунистической партии и комсомола значительно упал, возрастает популярность неформальных движений. Но при этом более половины опрошенных (54 процента) не согласны с тем, что «только неформальные организации способны решительно проводить линию на улучшение положения в стране». 40 процентов вообще полностью убеждены, что «народные фронты и другие неформалы только усугубляют трудности». Такая же ситуация и в Нукусе — 47 процентов возлагают надежду на обновленную КПСС.

Но характерно и другое: лишь единицы из опрошенных (в среднем всего два процента в различных регионах) считают, что КПСС в ее сегодняшнем состоянии способна вывести страну из кризиса.

**Валерия МИХАЛЮК.**

## БЕЖЕНЦЫ В РОССИИ: ЧТО ДАЛЬШЕ?

# РАБОТА ДЛЯ ЦЕЛОГО ПОКОЛЕНИЯ

**Какие подспудные взрывы выбрасывают на поверхность обуглившуюся от бедствий лаву беженцев, как предотвратить эти взрывы, как помочь тысячам людей, отброшенных от родных мест? Об этом журналист Феликс АЛЕКСЕЕВ беседует с народным депутатом РСФСР, председателем подкомитета по делам беженцев Верховного Совета России Михаилом АРУТЮНОВЫМ.**

— Первые эпицентры столкновений, круто поломавших судьбы сотен тысяч людей, образовались в Закавказье, где в результате известных событий появилось два потока беженцев: из Азербайджана в Армению и наоборот. Около 400 тысяч человек были вынуждены оставить свои родные очаги, — говорит Михаил Арутюнов. — Затем из азербайджанского эпицентра поток беженцев был выброшен в Россию. По официальным данным, бежало около 180 тысяч человек. Из них 70—80 процентов — русскоязычное население, остальные — в основном армяне. Жертвами этого трагического исхода стали и азербайджанцы, состоящие в смешанных браках.

Еще один эпицентр, надо сказать, неожиданный, возник в Тувинской автономной республике. Местные руководители пытаются сгладить углы и преуменьшить масштабы тувинского исхода. Однако рост преступности и усиление межнациональных конфликтов заставили уехать оттуда уже свыше пяти тысяч русскоязычных граждан старше 16 лет. И это, вероятно, лишь первая волна беженцев. Поначалу они селились неподалеку от брошенных очагов, но сейчас стали появляться и в других областях России.

Добавлю, что в поток беженцев оказались вовлеченными помимо русских, армян, азербайджанцев и чеченцы, и ингуши, и турки-месхетинцы, и евреи. Тревожная ситуация складывается в Молдавии. Эти беды не обошли стороной и прибалтийские республики. Словом, трагический список можно продолжить. По самым скромным подсчетам, сегодня по стране разбросано 600—900 тысяч беженцев.

*— Чем объясняется такая «вилка» в цифрах — 200 тысяч человек?*

— Тем, что многие из оставивших родные очаги становятся скитальцами, живут в поисках надежной кровли и работы. Поэтому данные, которыми мы располагаем, все время колеблются.

*— В чем, по вашему мнению, причины возникновения эпицентров, из которых исходят потоки беженцев?*

— Они — в нашей неустроенности, и в первую очередь в развале экономики. Хотя я и не разделяю ту точку зрения, что во всем виновата только кризисная экономическая ситуация, тяготы повседневных нужд. И в странах с нормально развивающейся экономикой, как известно, вспыхивают межнациональные конфликты. Хотя не в таких масштабах и не столь жестокие, как в нашей стране.

Когда бремя разрухи становится непосильным, начинают искать виновников. А где легче всего их найти? Среди так называемых инородцев, людей не своей национальности. Возникают или активизируются организации и группы, заинтересованные в разжигании националистической истерии, создается образ врага и виновника бедствий. Жертвами вражды становятся «пришельцы», хотя они нередко связаны с этой землей корнями нескольких поколений. А кроме того, еще и сегодня нам приходится пожинать горький урожай сталинской репрессивной политики переселения народов. Именно тогда были брошены страшные семена национального раздора, дающие до сих пор всходы.

*— В прессе промелькнули сообщения, что к переезду готовятся целые производственные коллективы. Так ли это?*

— У нас действительно возникло самодеятельное коллективное движение беженцев. В той же Туве, в среднеазиатских республиках, в Казахстане некоторые трудовые коллективы, где в основном работают лица некоренных национальностей, ощущая рост нетерпимости со стороны коренного населения, чувствуя приближающуюся неизбежность покидать обжитые места, рассылают по России «разведчиков». Они выясняют, где можно осесть не по одиночке, а сохранив рабочие и житейские связи. Эти люди готовы, получив, разумеется, субсидии, технику и строительные материалы, сообща возводить новые поселки.

*— Какие же юридические нормы предлагает ввести Верховный Совет РСФСР, чтобы облегчить участь беженцев?*

— До недавнего времени у нас в стране даже не существовало понятия «беженец». В правительственных документах говорилось о лицах, вынужденно покинувших места своего постоянного обитания. Сегодня бедствие обрело такие масштабы, что нам необходимо иметь закон о статусе беженцев. Такой закон готовится. Он уже прошел несколько редакционных стадий, обсуждался в парламентских комитетах и комиссиях и, вероятно, в скором времени будет внесен на рассмотрение Верховного Совета РСФСР.

Беженцами мы предлагаем называть тех лиц, которые покидают места своего постоянного проживания в силу обоснованного опасения за свое или членов своих семей здоровье или жизни из-за массовых беспорядков и межнациональных конфликтов.

В проекте закона определяется также правовой статус вынужденных переселенцев. В эту категорию включаются лица, которые покидают места постоянного проживания в силу оказываемого на них психологического давления, которое выражается в заявлениях в средствах массовой информации, на митингах и другими методами, принятия дискриминирующего законодательства, стремления воссоединиться с членами своих семей, признанных беженцами.

*— Что такой закон необходим, очевидно. Но нужен и механизм действенной и быстрой помощи людям, оказавшимся в беде. Что делается в этом направлении?*

— Действительно, нельзя сидеть и ждать, когда кто-то придет на помощь и возместит ущерб людям, вынужденным покинуть родной кров. Россия, куда устремляются беженцы, готова взять их под свое крыло, оказать содействие в устройстве новой жизни. Однако для этого ей необходимы финансовые средства, выделенные в том числе и из общесоюзного фонда, а также материальные и технические ресурсы. Каждая из суверенных республик, образующих наш Союз, должна будет вносить в этот фонд определенный пай. Как мне кажется, необходимо создать в различных зонах эвакуационные пункты и места временных поселений, где беженцы могли бы прийти в себя психологически, и уже затем решать, где они смогут осесть основательно. Думаю, что такая организация может быть ассоциирована с министерством труда Российской Федерации, хотя, на мой взгляд, желательно создать Государственный комитет РСФСР по делам беженцев и переселенцев. Новая организация должна заключать договоры о строительстве жилья и предприятий с местными Советами, промышленными и хозяйственными объединениями. И, конечно, материальная компенсация за понесенные потери не должна быть нищенской.

*— Что же дальше? Удастся ли остановить это «великое переселение» народов, вызванное межнациональными потрясениями?*

— Только в обществе со здоровой, нормально функционирующей экономикой, которая открывает путь к благосостоянию для всех граждан, могут быть прерваны процессы, ведущие к межнациональным потрясениям. В суверенных республиках, формирующих наш Союз, должна быть создана иная атмосфера отношений между всеми национальными группами, атмосфера действительного уважения прав и традиций каждой из них. Это трудно—работа для целого поколения. Но мы обязаны заложить основы будущего уже сейчас.

## З АПОШНІХ ВЕРНІСАЖАЎ





**У выставачнай зале Саюза мастакоў у Брэсце размясцілася экспазіцыя «Паэзія і праўда нерэальнага. Метафарычны жывапіс», арганізаваная пры садзейнічанні Люблінскага і Брэсцкага краязнаўчых музеяў. Па карцінах, выстаўленых тут, гледачы маюць рэдкую магчымасць ацаніць работу мастакоў, якія належаць да нерэалістычнага напрамку ў сучасным мастацтве.**

**Аўтары не адмаўляюцца ад адлюстравання аб'ектыўнага свету, але надзяляюць яго сваім асобым сэнсам.**

**НА ЗДЫМКАХ: у зале выстаўкі; Лешак РОЗГА. «Мары».**

**Фота Э. КАБЯКА.**

## НАШ КАЛЯНДАР

# СМЕХ СКРОЗЬ СЛЁЗЫ

*Да 70-годдзя з дня нараджэння Андрэя МАКАЁНКА*

Сёлета ў лістападзе Андрэю Макаёнку было б толькі семдзесят. Толькі. Працаваць бы яму ды працаваць... Тым больш, што час настаў такі, калі вельмі ж не хапае насмешліва-мудрага, з'едлівага і адначасова разважлівага слова драматурга-грамадзяніна, які не баяўся сказаць голаму каралю, што ён голы, а нягодніку, што ён нягоднік. Зрэшты, гісторыя не прызнае ўмоўнага ладу. Яго, вядома, не хапае нам сёння. Але засталіся творы. Засталася цэлая галерэя герояў. У іх вусны ўклаў А. Макаёнак словы трывогі і болю, перасцярогі і надзеі. І гучаць гэтыя словы вельмі па-сучаснаму, а многія перасцярогі драматурга аказаліся сапраўды празорлівымі.

Нарадзіўся Андрэй Макаёнак 12 лістапада 1920 года ў в. Борхаў Рагачоўскага раёна Гомельскай вобласці. У 1938 годзе заканчвае Журавіцкую сярэднюю школу, робіць няўдалую спробу паступіць у інстытут кінематаграфіі, працуе масавіком у Журавіцкім Доме сацыялістычнай культуры, нарэшце, прызываецца ў рады Чырвонай Арміі. Потым была вайна. Быў Крымска-Феадасійскі дэсант...

Вярнуўся ў самым пачатку 1944 года дамоў, даведаўся, што бацьку расстралялі фашысты. А колькі іншых ахвяр, колькі разбурэнняў! Працаваў у Журавіцкай школе настаўнікам, першым сакратаром мясцовага райкома камсамола, выбіраўся суддзёй раённага нарсуда. І ўвесь час марыў пра вучобу. Яшчэ з даваеннага часу ён цвёрда вырашыў стала заняцца літаратурнай творчасцю. Праўда, цягнула і да жывапісу — маляваць Андрэй і ўмеў, і любіў. А яшчэ някепска рэзаў па дрэву. Аднак літаратура заставалася самым галоўным у жыцці.

Першая поўнаметражная п'еса «На досвітку» пастаўлена ў 1951 годзе, а праз нейкія два гады з выхадам сатырычнай камедыі «Выбачайце, калі ласка!» папулярнасць маладога драматурга перасягнула не толькі межы нашай рэспублікі, але і ўсёй краіны. Асаблівая ўзрос аўтарытэт А. Макаёнка-драматурга пасля выхаду ў свет — амаль адначасова — трагікамедый «Зацюканы апостал» і «Трыбунал».

Пачатак жа 60-х быў адзначаны бліскучым поспехам «Лявоніхі на арбіце». На шчасце, гром апладысментаў на спектаклях па гэтай камедыі ў шматлікіх тэатрах СССР і за мяжой не заспакоіў драматурга, які разумеў, што цікавае сёння можа перастаць быць такім заўтра. Вось чаму амаль дзесяць гадоў чакалі ад яго тэатры новых п'ес. І дачакаліся. Прынцыпова новых. «Зацюканы апостал» і «Трыбунал»—гэта істотна новае слова ў савецкай камедыяграфіі. І наогул, канец 60-х — 70-я гады былі вельмі плённымі ў творчасці А. Макаёнка. Майстэрства яго вырасла настолькі, што яму пад сілу была, бадай, любая творчая задума. Ніколі яшчэ не адчуваў такой творчай раскаванасці. Ён нібы спецыяльна паставіў на мэце выпрабаваць выяўленчыя магчымасці ўсіх жанравых разнавіднасцей камедыі. Сатырычную і сацыяльна-бытавую камедыю ён асво... зней, потым адолеў два няпростыя віды трагікамедыі — п... чны памфлет («Зацюканы апостал») і народны лубок («Трыбунал»). За імі з'явіліся такія розныя па сваіх структурна-кампазіцыйных формах творы, як сатырычная камедыя трагікамічнай танальнасці «Кашмар» (сцэнічная назва «Святая прастата»), камедыя — сентыментальны фельетон «Верачка» і трагікамедыя «Пагарэльцы».

Апошнім я... ворам была трагікамедыя «Дыхайце эканомна» — яркая, па... адзянску бескампрамісная сатыра на вялікадзяржаўных палітыканаў, шавіністаў і беспрынцыповых гандляроў смерцю.

## ШКОЛА ДЭМАКРАТЫІ

# САЦЫЯЛІСТЫЧНАЯ ІДЭЯ І ХРЫСЦІЯНСТВА

Радыкальныя перамены на Еўрапейскім кантыненце, пераход да партнёрскіх адносін паміж СССР і ЗША, зрухі ва ўрэгуляванні шэрагу рэгіянальных канфліктаў, прагрэс на перагаворах па раззбраенню — усё гэта наводзіць на думку, што нараджаецца новая эпоха, багатая беспрэцэдэнтнымі магчымасцямі. Калі чалавецтва зможа разумна імі распарадзіцца, то адбудзецца пералом у гісторыі, сфарміруецца сусветнае супольніцтва, дзе не будзе месца ваеннай канфрантацыі, дыктату, палітыцы сілы.

Сярод духоўных і інтэлектуальных каштоўнасцей, на якіх можа быць пабудавана новая, постканфрантацыйная цывілізацыя, варта выдзеліць сацыялістычную ідэю і хрысціянскую сацыяльную думку, багатыя зместам, якія ідуць карэннямі ў далёкія стагоддзі і маюць сёння мільёны прыхільнікаў.

Цеснае перапляценне сацыялістычных і хрысціянскіх пачаткаў адбылося яшчэ ў час іх зараджэння. На гэта звяртаў увагу, як вядома, Ф. Энгельс, які бачыў «вартыя ўвагі пункты сутыкнення». Ранняя хрысціянская думка ўтрымлівае ў сабе асуджэнне сацыяльнага і маральнага зла, патрабаванні маральнай чысціні ўсіх членаў грамадства. У ёй можна знайсці элементы сацыяльнага пратэсту і крытыкі існаваўшага тады грамадскага ладу. У Евангеллях і Дзеяннях апосталаў змяшчаецца шэраг палажэнняў, якія праз многа стагоддзяў стануць лозунгамі сацыялістычнага руху (напрыклад, «хто не працуе, той не есць» і інш.).

Вядомы савецкі вучоны акадэмік В. Волгін меркаваў, што ранняе хрысціянства дало сацыялістычнай думцы ідэю, якая своеасаблівa афарбавала на доўгія стагоддзі мару аб лепшым грамадскім ладзе. Гэта — ідэя так званага тысячагадовага царства Божага. Праз распаўсюджанне хрысціянства за межы Рымскай імперыі гэтая ідэя набыла інтэрнацыянальны характар. Хрысціянства садзейнічала развіццю сацыялістычнай ідэі праўнясеннем сваіх норм сацыялізацыі ў элінскую мару аб Залатым веку, на падставе якой пазней фарміраваліся некаторыя мадэлі сацыялістычных утопій.

Нарэшце, з ранняга хрысціянства больш позніх сацыялістычныя вучэнні запазычвалі некаторыя элементы, якія былі выкарыстаны пры распрацоўцы новых форм чалавечага супольнага жыцця і маралі.

Калі звярнуцца да гісторыі Расіі, то відавочна, што марксізм быў асноўнай, але не адзінай ідэалагічнай плынню, якая падрыхтавала кардынальныя рэвалюцыйныя перамены, у тым ліку Кастрычнік 1917 года. Сярод тых духоўных напрамкаў, якія будзіравалі сацыяльны пратэст, былі і некаторыя напрамкі хрысціянскай думкі. Праяўляючы сябе ў спецыфічна расійскім асяроддзі, яны прыстасоўваліся да асаблівасцей развіцця Расіі, сацыялізаваліся ва ўмовах распаўсюджання сацыялістычнай ідэі ў грамадстве.

У некаторых хрысціянскіх мысліцеляў Расіі праявілася яўная цяга да сацыялістычнага напрамку. Калі адна частка ідэолагаў сацыяльных перамен ішла ад хрысціянскіх пачаткаў да сацыялістычных ідэалаў, пераджаючы пры гэтым плыні, якія часта ўзаемна адмаўляюць адна адну, то другая — здзейсніла пераход у адваротным напрамку. У іх ліку М. Бярдзяеў, С. Булгакаў, С. Франк, якія пачалі з легальнага марксізму, затым з ім парвалі, а ў канцы жыцця сталі вядомымі філосафамі хрысціянства.

Усё гэта сведчыла аб складаным працэсе ўзаемаўплыву сацыялістычнай і хрысціянскай думкі ў Расіі напярэдадні Кастрычніцкай рэвалюцыі, якая зрабіла ўплыў кардынальным чынам на далейшае развіццё краіны і, без перабольшання, адбілася на гісторыі ўсяго свету ў XX стагоддзі.

Агульнасць лёсаў носьбітаў хрысціянскай і сацыялістычнай думкі праявілася ў Савецкім Саюзе ў гады сталінскай дыктатуры. Праследаванням падвергнуліся не толькі многія святарнаслужыцелі і багасловы, свецкія філосафы-хрысціяне, але і прадстаўнікі марксісцкай інтэлігенцыі, уся віна якіх заключалася ў тым, што іх разуменне марксізму разыходзілася з тым, як гэтае вучэнне трактавалі Сталін і яго апалагеты. Паводле падлікаў, **камуністаў - марксістаў загінула ў турмах і ГУЛАГу ў тыя гады нават больш, чым актыўных прыхільнікаў хрысціянскай ідэі.**

Хаця цяпер іншы раз сцвярджаюць, быццам сацыялізм перажывае па меншай меры крызіс ці знаходзіцца ў стане поўнага краху, было б больш трапна гаварыць пра крызіс і крах толькі сталінскай мадэлі сацыялізму. Ці быў гэта той сацыялізм, да якога імкнуліся многія пакаленні людзей? Не, пры Сталіне ўзнікла жорсткая таталітарная сістэма, у якой сацыялістычнае вучэнне было скажона. Гэта была дэфармацыя сацыялістычнай ідэі, разнастайнай па сваіх параметрах, выключна багатай па змесце. Зводзіць яе толькі да сталінісцкага варыянта азначае не заўважаць усёй яе светапогляднай глыбіні, яе гуманізму, разнастайнасці форм палітычнага ўвасаблення. Гісторыя чалавечай думкі сведчыць, што ў развіцці глабальных ідэй сусветнага значэння бываюць узлёты і падзенні, яны могуць часам мець большы ці меншы ўплыў на грамадства.

Тое, што адбылося са сталінізмам, вядома ж, не азначае канца сацыялістычнай ідэі, яна абнаўляецца, улічвае новыя рэальнасці, убірае ў сябе дух часу, шукае новыя формы ажыццяўлення.

Яе матэрыяльным увасабленнем стаў працэс рэвалюцыйнай перабудовы ўсіх бакоў савецкага грамадства, калі адбываецца раскрыццё магчымасцей сацыялізму, адраджэнне сацыялістычнай ідэі ў рамках канцэпцыі гуманнага, дэмакратычнага сацыялізму. Гэтая канцэпцыя зыходзіць з неабходнасці выкарыстоўваць лепшыя дасягненні чалавечага розуму і вопыту, бачыць мэту сацыялізму ў служэнні чалавеку, яго духоўным і матэрыяльным інтарэсам.

У напрамку развіцця чалавецтва сёння ёсць два магутныя патокі духоўнага жыцця, адзін з якіх звязаны з ідэяй сацыялізму, другі — хрысціянства. Кожнаму з гэтых напрамкаў на працягу гісторыі іх развіцця нямала разоў прадказвалі гібель і распад, але кожны раз улаcцівая ім унутраная сіла дазваляла выжыць, абнавіцца, стаць адэкватнымі новай рэчаіснасці. Гэтыя ідэі, якія валодаюць розумамі і душамі значнай часткі чалавецтва, — магутны фермент, які ўзмацняе цягу да стварэння на зямным шары новай, мірнай цывілізацыі, дастойнай XXI стагоддзя, якая абуджае да канструктыўнага ўзаемадзеяння і супрацоўніцтва.

**Мікалай КАВАЛЬСКІ,**
**прафесар, доктар гістарычных навук.**

